ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 4 (1641) | Пятніца, 12 студзеня 1962 года. | Цана 4 кап.



НА ЗДЫМКУ: Першы сакратар ЦК КПСС, Старшыня Савета Міністраў СССР Мікіта Сяргеевіч ХРУШЧОЎ аглядае сельскагаспадарчую тэхніку на эксперыментальнай базе Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі нечарназёмнай зоны СССР.

Фота У. Лупейкі. (Фотахроніка БЕЛТА).

## ЧЭРПАЦЬ З ГЛЫБІНЬ ЖЫЦЦЯ

Натхнёнай, кіпучай працай жыве Савецкая краіна. Кожны наш дзень багаты слаўнымі справамі. Кожны дзень нараджае новых і новых герояў, чые працоўныя подзвігі становяцца гордасцю народа — будаўніка камунізма. Палыхаюць агнявымі зарывамі мартэны. Узнімаюцца ўвысь, уступаюць у строй новабудоўлі. Няспынным патокам сыходзяць з заводскіх канвеераў трактары, аўтамабілі, камбайны, станкі...

Гэта ідзе па краіне 1962 год — чацвёрты год сямігодкі.

Магутны ўздым вытворчасці металу, пракату, нафты, электраэнергіі, машын, станкоў, сродкаў аўтаматыкі і электронікі, расшырэнне выпуску разнастайных харчовых прадуктаў, павелічэнне ўраджайнасці калгасных і саўгасных палёў, павышэнне прадуктыўнасці жывёлагадоўлі — вось што зычыць нам 1962 год, вось які рубеж мы павінны заваяваць сёлета.

Асабліва вялікія задачы стаяць перад працаўнікамі вёскі. За апошнія гады ажыццёўлены буйныя меры, дзякуючы чаму справы ў сельскай гаспадарцы значна палепшыліся. Аднак зроблена яшчэ далёка не ўсё. У нас ёсць яшчэ многа адсталых калгасаў і саўгасаў.

У рэзалюцыі XXII з'езда КПСС падкрэслена, што стварэнне багацця сельскагаспадарчых прадуктаў для народа — гэта адна з важнейшых задач камуністычнага будаўніцтва. Працаўнікі вёскі павінны хутка павялічыць вытворчасць збожжа, мяса, малака і іншых прадуктаў, узняць прадукцыйнасць працы, умацаваць эканоміку гаспадаркі.

У ажыццяўленне гэтай вялікай задачы ўносіць свой уклад і беларускі народ. Працаўнікі вёскі нашай рэспублікі не шкадуючы сіл змагаюцца за далейшы ўздым сельскай гаспадаркі.

У развіцці калгасаў і саўгасаў Беларусі ёсць нямала недахопаў і цяжкасцей, але ў нас хапае рэзерваў і магчымасцей, правільнае выкарыстанне якіх дазваляе дамагчыся хуткага росту эканомікі. Аб гэтым з усёй сілай сведчыць вопыт нашых перадавых гаспадарак.

Учора ў Мінску пачалася нарада работнікаў сельскай гаспадаркі Беларусі. Для ўдзелу ў рабоце нарады прыехаў Першы сакратар ЦК КПСС, Старшыня Савета Міністраў СССР таварыш М. С. Хрушчоў. Бясспрэчна, што гэтая нарада паспрыяе мабілізацыі сіл сельскіх працаўнікоў і ўсяго беларускага народа на далейшы ўздым эканомікі калгасаў і саўгасаў, на выяўленне новых рэзерваў і магчымасцей росту народнай гаспадаркі рэспублікі.

Несумненна таксама, што ў рабоце нарады, у яе матэрыялах шмат натхняючага, цікавага і для пісьменнікаў, дзеячоў мастацтва, усіх работнікаў культурнага фронту. Кожны з іх павінен запытаць сябе: «А што асабіста я зрабіў дзеля выканання задач, над вырашэннем якіх працуе сёння народ? Якое маё месца ва ўсенароднай барацьбе за круты ўздым сельскай гаспадаркі?»

Вядома, адказ на гэтыя пытанні дае найперш творчасць пісьменнікаў і дзеячоў мастацтва. І трэба сказаць, што ў беларускай літаратуры і мастацтве паказ жыцця сённяшняй вёскі займае вялікае месца. Але справядліва і тое, што паказ гэты часта не задавальняе чытача. Мала, надзвычай мала з'яўляецца ў нас сапраўды высокамастацкіх твораў, адметных смелым і глыбокім адлюстраваннем сённяшняй рэчаіснасці, адметных пранікненнем у новыя працэсы сельскага жыцця.

Беларуская вёска багатая сёння выдатнымі людзьмі, сапраўднымі змагарамі за народнае шчасце. Гэта мнагагранныя, духоўна багатыя людзі, у чыім вобліку бачны выразныя рысы чалавека камуністычнага заўтра. А ці багатыя нашы творы вобразамі такіх людзей? Ці створаны ў нашай літаратуры, у нашым мастацтве вялікія, сапраўды маштабныя характары гэтых людзей?..

Новая Праграма КПСС, якую так усхвалявана ўспрыняў увесь наш народ, урачыста і цвёрда абвясціла: «Цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме!». Узіраючыся ў сённяшняе жыццё, раздумваючы над будучыняй свайго народа, асабліва яскрава бачыш вялікую ролю літаратуры і мастацтва ў фарміраванні чалавека будучыні. І зусім зразумела, як важна, каб нашы пісьменнікі і дзеячы мастацтва пашыралі і мацавалі свае сувязі з жыццём, часцей акуналіся ў яго глыбіні, хутка заўважалі і адлюстроўвалі новыя з'явы і працэсы грамадскага развіцця.

У апошнія гады беларускія пісьменнікі, мастакі, кампазітары, дзеячы сцэны часцей сталі бываць у калгасах і саўгасах, на будоўлях і заводах. І гэта надзвычай добра. Як вынік, мы маем рад цікавых мастацкіх палотнаў, літаратурных і музычных твораў аб сучаснасці. Летась у нас выйшаў зборнік нарысаў «Героі нашых дзён», шэраг нарысаў выдадзен асобнымі брашурамі. Часцей сталі з'яўляцца нарысы аб перадавых людзях горада і вёскі на старонках перыядычнага друку. Гэта радасна. І ўсё ж нельга не сказаць, што часам у нарысах мастацкі аналіз жыццёвых з'яў падменены траскатнёй або халодным апісальніцтвам; часам аўтары пазбягаюць паказу рэальных цяжкасцей і недахопаў, што сустракаюцца на жыццёвым шляху герояў. Зусім зразумела, што такі нарыс ператвараецца ў скараспелку, якая нікога не ўсхвалюе.

Вялікая сіла літаратуры і мастацтва заключаецца не толькі ў сцвярджэнні нашых ідэалаў, паказе станоўчых герояў, а і ў выкрыцці ўсяго адсталага, чужога нам, у барацьбе супраць таго, што тармозіць наш рух наперад. У гэтай сувязі нельга не сказаць аб ролі сатыры. Выступаючы на нарадзе работнікаў сельскай гаспадаркі Казахстана ў Цалінаградзе, таварыш М. С. Хрушчоў заклікаў савецкіх пісьменнікаў і мастакоў актыўней працаваць над стварэннем сатырычнай зброі, смела выкрываць недахопы работы ў вёсцы. «Трэба было б і сатырычныя кіначасопісы выпускаць», — зазначыў таварыш М. С. Хрушчоў.

Між тым, сатырычны жанр у беларускай літаратуры і мастацтве не вылучаецца значнымі здабыткамі. Занядбаная ў гады культу асобы І. В. Сталіна, сатыра яшчэ і цяпер не навастрыла па-сапраўднаму сваё пяро. А жыццё патрабуе гэтага!

Прызнанне высокай грамадскай ролі савецкай літаратуры і мастацтва, іх сувязі з палітычнымі задачамі сучаснасці прадвызначае, разам з тым, дбайнае выкарыстанне здабыткаў мастацкай творчасці. Трэба, каб нашы кнігі аб вёсцы, кінафільмы, спектаклі, творы мастакоў, скульптараў, кампазітараў даходзілі да найшырэйшага кола сельскіх працаўнікоў. На жаль, гэта далёка не так. Напрыклад, многа ёсць недахопаў у справе распаўсюджання літаратуры ў вёсцы. Кнігагандлёвыя арганізацыі і культурна-асветныя ўстановы мала праяўляюць ініцыятывы ў пошуках новых дзейсных форм прапаганды кнігі сярод сельскіх чытачоў.

Больш увагі да багаццяў мастацкай творчасці патрабуецца і ад шматлікай арміі нашых прапагандыстаў, агітатараў, партыйных і савецкіх работнікаў. Выступаючы з лекцыямі і дакладамі перад працаўнікамі вёскі, яны надзвычай рэдка выкарыстоўваюць вобразы і прыклады з твораў беларускай савецкай літаратуры. А ўспомнім прамовы і артыкулы Уладзіміра Ільіча Леніна. Як часта вялікі правадыр рэвалюцыі звяртаўся да літаратурных вобразаў, да трапных народных прыказак, да мастацкага слова пісьменнікаў! І хіба не былі б больш даходлівымі, больш дзейснымі выступленні нашых лектараў і дакладчыкаў, калі б усе яны заўсёды следавалі гэтаму ленінскаму ўзору! І, разам з тым, выйграла б справа прапаганды савецкай літаратуры.

Задачы камуністычнага будаўніцтва, над вырашэннем якіх зараз працуе савецкі народ, патрабуюць паляпшэння ўсёй ідэалагічнай работы, выкарыстання ўсіх форм і сродкаў выхавання мас, мабілізацыі іх на ажыццяўленне новай Праграмы КПСС.

Ад пісьменнікаў, дзеячоў мастацтва зараз як ніколі патрабуецца асабліва актыўная творчасць, асабліва глыбокае пранікненне ў жыццё, у духоўны свет і стваральную дзейнасць нашых сучаснікаў. Галоўная лінія ў развіцці савецкай літаратуры і мастацтва, як аб гэтым гаворыцца ў Праграме КПСС, — умацаванне сувязей з жыццём народа, праўдзівае і высокамастацкае адлюстраванне багацця і мнагастайнасці сацыялістычнай рэчаіснасці, натхнёны і яркі паказ новага, сапраўды камуністычнага, і выкрыццё ўсяго таго, што перашкаджае руху грамадства наперад.

На гэтым шляху будуць заваяваны новыя выдатныя поспехі нашай літаратуры і мастацтва.

## ЗНАХОДЖАННЕ ТАВАРЫША М. С. ХРУШЧОВА Ў МІНСКУ

10 студзеня ў Мінск для ўдзелу ў рэспубліканскай нарадзе работнікаў сельскай гаспадаркі прыбыў Першы сакратар ЦК КПСС, Старшыня Савета Міністраў СССР таварыш М. С. Хрушчоў.

На Мінскім вакзале таварыша М. С. Хрушчова сустракалі першы сакратар ЦК КП Беларусі К. Т. Мазураў, Старшыня Савета Міністраў БССР Ц. Я. Кісялёў, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР В. І. Казлоў і іншыя кіраўнікі Камуністычнай партыі і ўрада Беларусі.

Таварыша М. С. Хрушчова сустракалі таксама кіраўнік дэлегацыі Украінскай ССР, якая прыбыла на нараду работнікаў сельскай гаспадаркі БССР, першы сакратар ЦК КП Украіны М. В. Падгорны і кіраўнік дэлегацыі Літоўскай ССР, першы сакратар ЦК КП Літвы А. Ю. Снечкус.

У той жа дзень таварыш М. С. Хрушчоў наведаў эксперыментальную базу Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі нечарназёмнай зоны СССР, якая знаходзіцца ў Ждановічах, і агледзеў там узоры новай тэхнікі для земляробства і жывёлагадоўлі.

Разам з М. С. Хрушчовым былі першы сакратар ЦК КП Беларусі К. Т. Мазураў, Старшыня Савета Міністраў БССР Ц. Я. Кісялёў, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР В. І. Казлоў, сакратары ЦК КПБ Ф. А. Сурганаў, П. М. Машэраў, В. Ф. Шаура, Д. Ф. Філімонаў, намеснікі Старшыні Савета Міністраў БССР І. Ф. Клімаў, А. І. Золаў, а таксама першы сакратар ЦК КП Украіны М. В. Падгорны.

Дырэктар інстытута М. Я. Мацапура азнаёміў гасцей з тэхналогіяй і сістэмай машын для здабычы, прыгатавання і ўнясення мясцовых угнаенняў. Гэта тэхніка дазваляе максімальна наблізіць да палёў нарыхтоўку такіх угнаенняў.

Таварыш М. С. Хрушчоў агледзеў затым безрадковую навясную сеялку-культыватар, выкарыстанне якой, паводле даных інстытута, дае прыбаўку ўраджаю на 16—20 працэнтаў у параўнанні з радковай сяўбой, машыны для ўборкі бульбы, універсальны пагрузчык, установку для прыгатавання сяннай мукі. Аб сваёй машыне для абмалоту льну расказаў калгасны ўмелец Н. С. Ладуцька з сельгасарцелі імя Леніна Мсціслаўскага раёна. Гэтым агрэгатам за 12 дзён быў абмалочан ураджай ільну з 205 гектараў — у 4 разы хутчэй, чым гэта можа зрабіць серыйная льномалатарня.

Былі паказаны ў дзеянні два новыя перасоўныя бурыльныя станкі. Яны паспяхова прайшлі выпрабаванні ў розных раёнах краіны. Шчыліны глыбінёй у 50 метраў можна прабурыць цяпер метадам вібрацыі за два рабочыя дні. Бурыльнымі ўстаноўкамі старога тыпу, якія манціруюцца на драўняных вышках, такую работу ўдаецца выканаць не менш чым за два тыдні. Бурэнне шчыліны новым метадам каштуе прыкладна ў 10 разоў дзешавей.

Для агляду былі выстаўлены таксама комплекс машын для меліярацыйных і культуртэхнічных работ—спуску паверхневых вод, аэрацыі глебы, для збору і выдалення каменняў і іншых аперацый.

На эксперыментальнай базе былі, акрамя таго, прадстаўлены магутныя грузавыя аўтамабілі, якія выпускаюцца ў Беларусі. У прыватнасці, быў паказан аўтапоезд грузападымальнасцю 40 тон для работы на адкрытых горнарудных распрацоўках. Выкарыстанне такога аўтапоезда дазваляе павысіць прадукцыйнасць працы на перавозцы руды на 40 працэнтаў.

У гэтым годзе ў розных зонах краіны пройдуць выпрабаванні яшчэ некалькіх дзесяткаў машын, створаных у інстытуце. Расшыраецца вытворча-тэхнічная база гэтай навуковай установы. Інстытут працягвае даследаванні па тэорыі земляробчай механікі, распрацоўцы тэхналогіі ўборкі і сушкі збожжа, па комплекснай механізацыі ўборкі бульбы і льну, нарыхтоўцы і вывазцы торфу, механізацыі пагруза-разгрузачных работ, па раду іншых праблем, звязаных з далейшай механізацыяй і электрыфікацыяй сельскагаспадарчай вытворчасці.

Група ўдзельнікаў рэспубліканскай нарады работнікаў сельскай гаспадаркі Беларусі: аграном калгаса «Авангард» Асіповіцкага раёна Анатоль Ждановіч, сакратар партыйнай арганізацыі калгаса «Рассвет» Кіраўскага раёна Аляксей Нікіценка, старшыня калгаса імя Леніна Талачынскага раёна Канстанцін Русанаў, свінарка саўгаса «Палата» Полацкага раёна Галіна Лагунова, старшыня калгаса «Рассвет» Кіраўскага раёна Герой Савецкага Саюза і Герой Сацыялістычнай Працы Кірыл Арлоўскі, Герой Сацыялістычнай Працы звеннявая калгаса «18 партз'езд» Талачынскага раёна Валянціна Кароткая.

Фота Ул. Крука.

### Нарада работнікаў сельскай гаспадаркі Беларусі

Учора, 11 студзеня, у Мінску адкрылася нарада работнікаў сельскай гаспадаркі Беларусі. У яе рабоце ўдзельнічае Першы сакратар ЦК КПСС, Старшыня Савета Міністраў СССР таварыш М. С. Хрушчоў.

Нарада абмяркоўвае пытанне аб задачах работнікаў сельскай гаспадаркі Беларусі па выкананню рашэнняў XXII з'езда КПСС аб далейшым развіцці сельскай гаспадаркі. З дакладам выступіў першы сакратар ЦК КП Беларусі К. Т. Мазураў.

На нарадзе прысутнічаюць таксама прадстаўнікі Украіны, Літвы, Латвіі і Эстоніі.

### КРАІНА РЫХТУЕЦЦА ДА ВЫБАРАЎ

18 сакавіка — дзень выбараў у Вярхоўны Савет СССР. Краіна рыхтуецца да гэтай важнай падзеі. У састаў Цэнтральнай выбарчай камісіі вылучаны перадавікі вытворчасці, сельскай гаспадаркі, партыйныя, савецкія, камсамольскія, прафсаюзныя работнікі.

У нашай рэспубліцы пачалося вылучэнне кандыдатаў у састаў Выбарчай камісіі Беларускай ССР па выбарах у Савет Нацыянальнасцей Вярхоўнага Савета СССР.

На пасяджэнні прэзідыума Саюза пісьменнікаў рэспублікі прынята рашэнне вылучыць кандыдатам у састаў Выбарчай камісіі Беларускай ССР па выбарах у Савет Нацыянальнасцей Вярхоўнага Савета СССР старшыню праўлення Саюза пісьменнікаў рэспублікі П. У. Броўку.

РАШЭННІ XXII З'ЕЗДА КПСС — У МАСЫ!

## ГАВОРАЦЬ МАЯКІ

Што зроблена па прапагандзе матэрыялаў XXII з'езда КПСС? Як лепш наладзіць работу бібліятэк, каб давесці рашэнні з'езда будаўнікоў камунізма да кожнага савецкага чалавека?

Гэтым пытанням быў прысвечан трохдзённы семінар работнікаў раённых і гарадскіх бібліятэк Магілёўскай вобласці, у якім прынялі ўдзел звыш 60 прапагандыстаў кнігі.

Шырока разгарнулі прапаганду матэрыялаў XXII з'езда КПСС работнікі Бабруйскай гарадской бібліятэкі імя Гогаля. З густам аформлены тут стэнды і плакаты: «Маральны кодэкс будаўніка камунізма», «У працы — наша шчасце», «Самая справядлівая ў свеце — мараль камуністычная». За апошні час бібліятэкары арганізавалі больш двух дзесяткаў кніжных выставак па з'ездаўскай тэматыцы. Ля кніжных выставак, а таксама ў цэхах заводаў і фабрык работнікі бібліятэкі і актывісты праводзяць агляды літаратуры.

Асаблівай папулярнасцю ў чытачоў карыстаюцца масавыя мерапрыемствы: канферэнцыі чытачоў, літаратурна-мастацкія вечары і інш.

Аб усім гэтым удзельнікам семінара расказала бібліятэкарка А. Пятрухіна.

Актывізавала прапаганду рашэнняў з'езда Краснапольская раённая бібліятэка. Загадчыца чытальнай залы Р. Махавікова расказала, як яны рыхтавалі і праводзілі дыспуты на тэмы «Ці гатоў ты жыць пры камунізме?», «Культуру — у быт моладзі».

Работнік Магілёўскай раённай бібліятэкі Святлана Захарэнка расказала аб тым, як лепшыя сельскія бібліятэкі раёна — Дашкаўская, Палыкавіцкая, Казіміраўская ўзялі шэфства над суседнімі адстаючымі. Загадчыца абанемента Касцюковіцкай раённай бібліятэкі К. Бязбабіч дзеліцца вопытам прапаганды з'ездаўскіх матэрыялаў і літаратуры аб камуністычным выхаванні працоўных. І ў кожным выступленні ёсць штосьці новае, цікавае.

Карыснай была для ўдзельнікаў семінара экскурсія ў народную бібліятэку, якая працуе пры Магілёўскім млынкамбінаце.

Для работнікаў раённых і гарадскіх бібліятэк прачытаны лекцыі і даклады на тэмы: «Рашэнні XXII з'езда КПСС — да кожнага савецкага чалавека», «Метадычная і практычная дапамога сельскім культасветустановам па прапагандзе матэрыялаў XXII з'езда КПСС», «Новае ў рабоце бібліятэк», «Прапаганда твораў беларускай літаратуры» і рад іншых.

В. ВІКТАРАЎ.

## У прэзідыуме СП Беларусі

10 студзеня адбылося пашыранае пасяджэнне прэзідыума СП Беларусі з удзелам членаў праўлення і пісьменнікаў.

Вырашана склікаць пашыраны пленум праўлення СП Беларусі 23 студзеня г. г. На парадак дня пленума ставіцца пытанне: «XXII з'езд КПСС і задачы беларускай савецкай літаратуры» (дакладчык П. Броўка).

## ТВОРЧЫЯ ПЛАНЫ І ЗАДУМЫ

Кінастудыя «Беларусьфільм» — адзін з буйнейшых творчых калектываў рэспублікі. У новым будынку студыі паступова ствараюцца ўмовы для плённай дзейнасці майстроў беларускай мастацкай кінематаграфіі, для выпуску карцін, якія павінны адпавядаць высокім эстэтычным густам савецкіх людзей, велічным справам будаўнікоў камунізма.

Ёсць у актыве студыі фільмы, якія атрымалі шырокае прызнанне ў нашай краіне і за рубяжом. Былі і сур'ёзныя няўдачы, слабыя шэрыя карціны, якія не абуджалі думкі, не хвалявалі сэрца.

Многае не ладзілася і яшчэ цяпер не ладзіцца на студыі. Мала аддаецца ўвагі выхаванню беларускіх рэжысёраў, акцёраў, аператараў. Калектыў студыі ў сваіх творах часта неглыбока адлюстроўваў жыццё і натхнёную працу беларускага народа. Не было належнай сувязі майстроў нашага кіно з творчымі саюзамі пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў.

Наш карэспандэнт звярнуўся да дырэктара студыі, заслужанага дзеяча мастацтва БССР І. Дорскага з просьбай расказаць аб тых захадах, якія прымае кіраўніцтва студыі для паляпшэння яе дзейнасці, асабліва ў галіне вырашэння найбольш вострай і складанай сцэнарнай праблемы.

— Калектыў студыі «Беларусьфільм», — сказаў І. Дорскі, — працуе з вялікім уздымам. Новая Праграма партыі — праграма пабудовы камунізма, даклады М. С. Хрушчова на XXII з'ездзе КПСС натхняюць дзеячоў беларускага кіно на новыя пошукі, выклікалі ў сцэнарыстаў і рэжысёраў новыя цікавыя задумы, жаданне лепш і больш працаваць.

У 1962 годзе наш калектыў будзе працаваць над пяццю мастацкімі фільмамі.

У сакавіку—красавіку рэжысёр Л. Голуб заканчвае работу над карцінай «Вуліца малодшага сына» па сцэнарыю Л. Касіля і М. Паляноўскага. Яна прысвечана 40-годдзю піянерскай арганізацыі.

Запушчаны ў вытворчасць фільм «Апошні хлеб» па сцэнарыю В. Труніна, які быў напісаны пры непасрэдным удзеле кансультантаў студыі па апавяданню аўтара, змешчанаму ў часопісе «Юность». Гэты сцэнарый прыцягнуў увагу студыі глыбокім вырашэннем маральна-этычных праблем. Аўтар раскрывае пачуцці дружбы і таварыскай узаемадапамогі савецкіх людзей. У творы сцвярджаюцца сацыялістычны гуманізм, павага да чалавечай працы. Сярод герояў будучага фільма—беларусы-цаліннікі. Карціну ставіць малады рэжысёр Б. Сцяпанаў пад мастацкім кіраўніцтвам С. Скварцова. Аператары А. Забалоцкі і Ю. Марухін.

Малады рэжысёр Ул. Бычкоў будзе працаваць над пастаноўкай фільма «Лялечная камедыя» па сцэнарыю В. Вітковіча і Р. Ягфельда. Асноўная тэма фільма, якая вырашаецца ў камедыйным жанры, — пераадоленне адмоўных рыс у псіхалогіі людзей.

— Галоўны наш абавязак, — гаворыць далей І. Дорскі, — устанаўленне шчырых, трывалых кантактаў з беларускімі літаратарамі і выпуск змястоўных фільмаў аб стваральнай дзейнасці беларускага народа.

Драматург А. Макаёнак па матывах сваёй камедыі «Лявоніха на арбіце» заканчвае сцэнарый «Рагаты бастыён», які будзе ставіць рэжысёр С. Сплашноў.

У лютым мяркуецца здаць у вытворчасць сцэнарый М. Матукоўскага і А. Каплінскай пра гераічную дзейнасць обальскіх камсамольцаў і моладзі ў дні Вялікай Айчыннай вайны (рэжысёр фільма І. Шульман).

Людзям Мінскага аўтазавода прысвячаецца фільм «Тры кроплі мора» па сцэнарыю Б. Рыцарава і В. Садчыкава (рэжысёр Б. Рыцараў).

Студыя спадзяецца гэтым летам пачаць здымаць фільм па раману «Крыніцы» І. Шамякіна (сцэнарый І. Шамякіна і Ю. Шчарбакова, рэжысёр Ю. Шчарбакоў). Плённая садружнасць пісьменніка і рэжысёра, якая станоўча праявілася ў Тэатры імя Якуба Коласа, працягваецца ў працы над новым кінатворам.

Неўзабаве мяркуецца пачаць пастаноўку фільма «Вера Харужая» па сцэнарыю А. Кучара (рэжысёр В. Вінаградаў).

Творчая дружба К. Губарэвіча і Л. Голуба, якая дала добрыя вынікі ў фільме «Дзяўчынка шукае бацьку», будзе прадоўжана ў карціне «Новая мама». Яна з'явіцца своеасаблівым працягам першага твора як па тэме, так і па жанру.

Пісьменнік Ул. Караткевіч з маладым рэжысёрам В. Туравым працуюць над кінатворам, які прысвячаецца людзям Салігорскага калійнага камбіната.

Калектыў студыі мае намер з большай настойлівасцю экранізаваць значныя творы беларускай прозы.

У сувязі з гэтым мы зацікавіліся, — падкрэслівае І. Дорскі, — раманам П. Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах», А. Адамовіча «Вайна пад стрэхамі», аповесцю В. Быкава «Трэцяя ракета» і некаторымі іншымі творамі.

Выказалі згоду напісаць сцэнарыі Я. Брыль і І. Навуменка.

Аддаючы асноўную ўвагу тэмам сучаснасці, творчы калектыў кінастудыі не мінае і гісторыка-рэвалюцыйнай тэмы. Прымаюцца захады да таго, каб на экране з'явіліся творы з вобразамі Леніна, Фрунзе. Мяркуецца стварыць фільм «Кастрычнік на Беларусі». Над гэтай тэмай ужо далі згоду працаваць Пятро Глебка і старэйшы кінарэжысёр Ул. Корш.

Будуць рыхтавацца сцэнарыі для фільмаў і на іншыя тэмы гераічнай гісторыі беларускага народа.

У мэтах творчай дапамогі сталым сцэнарыстам і таленавітай моладзі, калектыўнага абмеркавання новых сцэнарыяў будзе скліканы семінар. Ствараецца сцэнарная майстэрня пры кінастудыі.

Зусім нядаўна арганізавана маладзёжнае творчае аб'яднанне, у якое ўвайшлі маладыя рэжысёры Р. Віктараў, В. Вінаградаў, Ул. Бычкоў, В. Сцяпанаў, В. Тураў, Б. Рыцараў. Да моладзі далучыўся і Ю. Шчарбакоў. Гэтае аб'яднанне мае сваёй мэтай спрыяць мастацкаму росту маладых рэжысёрскіх кадраў. Яго кіраўніком прызначаны прафесар Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі С. Скварцоў.

Такія планы кінастудыі на бліжэйшы час. Ажыццяўленне іх патрабуе вялікіх намаганняў і нястомнай працы ўсяго нашага калектыву, а таксама сталай, дзейснай дапамогі іншых творчых арганізацый і шырокай грамадскасці рэспублікі, — сказаў у заключэнне І. Дорскі.

# Добры чалавек з Крычава

Ці можна па руках вызначыць прафесію чалавека? Асабіста я не бяруся. Прафесіі цяпер так перапляліся, што токар, напрыклад, з'яўляецца адначасова выкладчыкам у школе. альбо студэнтам вячэрняга аддзялення педагагічнага інстытута; трактарыст—піянерважатым, інжынер —шафёрам... Паспрабуй вызначы па выгляду іх занятак! Вось і гэты чалавек...

Але пачну па парадку...

Чацвёрты дзень я працаваў у Крычаве, у рэдакцыі раённай газеты. Пад вечар у дзверы пастукалі.

— Уваходзьце!

Немалады чалавек, падаючы мне спісаны аркуш паперы, заўважыў:

— Вось паглядзіце. Дужа ўжо ломяць. Гэтак не скора мы азелянім свой горад!

Па першаму ўражанню — перада мной настаўнік. Чалавек добра апрануты, капялюш зняў яшчэ за дзвярыма, з сівой, аж белай галавою. Да таго ж — каліграфічна правільны почырк. сцісла, выразна выкладзеная думка ў допісе... Заўтра я без усякай праўкі адпраўлю артыкул Л. Пастушэнкі (такі стаяў подпіс) у набор, а цяпер хачу пагаварыць з аўтарам.

Мяне зацікавілі яго рукі: вялікія, моцныя, з рэзка вызначанай сеткай сасудаў і зацвярдзелымі мазалямі. Наўрад ці такія рукі могуць быць у настаўніка ці канторшчыка. Хто ж ён?

— Вы ў нас нядаўна? — запытаў наведвальнік.

— Чацвёрты дзень.

— А я часцяком пішу. Не магу, разумееце, спакойна глядзець на непаладкі. Ну, прабачце, пайду. На заняткі бацькоўскага універсітэта трэба... Спяшаюся.

І пайшоў. Нетаропка, амаль бясшумна.

Хто ён? Запытаць я пасаромеўся. А калі зачыніліся дзверы, пачаў гартаць старонкі падшыўкі. У ёй і сапраўды вельмі часта траплялiся подпісы: Л. Пастушэнка; Леанід Пастушэнка; фота Л. Пастушэнкі; Л. Пастушэнка, рабкор; Л. Пастушэнка, няштатны літработнік прамыслова-транспартнага аддзела раённай газеты, і нарэшце, Леанід Пастушэнка—слесар цэха абпалу Крычаўскага цэментна-шыфернага камбіната.

Дык вось ён хто, чалавек, які хоча, каб горад патануў у зелянiне. Да ўсяго яму справа, усё заўважае яго пільнае вока. Вось ён друкуе заметку, каб у пасёлку камбіната паставілі яшчэ адну водаразборную калонку. Вось абураецца тымі, хто любіць «замочваць» палучку. Вось як няштатны фотакарэспандэнт змяшчае ў газеце партрэт ударніка камуністычнай працы. А праз нумар — здымак да ўвагі мясцовага Савета — брудная, незабрукаваная гарадская вуліца...

Па гэтых фотаздымках, заметках, інфармацыях, карэспандэнцыях адчувалася, што пісаў іх чалавек, які хоча, каб усё ў нашым жыцці было ладна, чалавек неспакойны, патрабавальны...

Такі ён і ёсць, Леанід Лаўрэнцьевіч Пастушэнка.

Аднойчы я назіраў... На аўтобусным прыпынку некалькі маладых хлопцаў заўзята лушчаць сланечнік. Шалупінне выплёўваюць проста пад ногі, на тратуар. Праходзяць міма людзі, бачаць, што тратуар засмечваецца, а нічога не кажуць. Толькі заўважаю—крочыць Пастушэнка. Спыніўся, дакорліва паківаў галавою.

— Як жа вам, маладыя людзі, не сорамна?

— А што?—пытаецца адзін з «грызуноў».

— Вуліцу ж брудзіце.

Маладыя людзі засмяяліся:

— Ты што — міліцыянер?

— Гаспадар горада я, вось хто. І вы таксама.

Слова за слова, бачу—падзейнічала. Адзін з хлопцаў нагою пачаў зграбаць смецце на тратуары. Другія павысыпалі сланечнік у скрынку...

Альбо такі выпадак.

Па вуліцы рухаліся тры новенькія «ДТ-54», рухаліся па асфальце, псуючы яго гусеніцамі. Леанід Лаўрэнцьевіч выходзіць на сярэдзіну вуліцы і спыняе машыны.

— Што ж вам, родныя, другой дарогі няма?..

Трактарысты звярнулі з асфальту...

Нічога Леанід Лаўрэнцьевіч не прапусціць, не пройдзе міма. Скіне камень з дарогі, не дазволіць ламаць галінкі дрэў, фурманшчыку падкажа, каб не прывязваў каня да маладых дрэўцаў, дапаможа бабульцы несці вядро ад воданапорнай калонкі.

А то ішоў ён у раённую рэдакцыю. На вуліцы спыніў яго дзед год пад сто.

— Родненькі, дзе мне пераначаваць?

— Пойдзем, пакажу гасцініцу.

І праводзіў чалавека да самой рэгістратуры.

А калі вяртаўся ўжо зацемна дамоў, зноў сустрэў старога.

— Ну як, ёсць начлег?

— Няма, родненькі.

— Усё занята?

— Ды не, без грошай не бяруць.

— Як, без грошай?

— Не прыслалі, галубок, з сабесу, вось і прыйшоў высветліць, у чым справа.

Стары сумным позіркам абвёў неба і дадаў:

— Доўга ішоў, бачыш, цемень на двары.

— Куды ж вы зараз?

— Пайду на станцыю, там і падрамлю на лаўцы.

А да вакзала не менш трох кіламетраў. У такім узросце дзед да самай раніцы будзе хадзіць туды-сюды.

— Пойдзем, дзядуля, я вас завяду. — Леанід Лаўрэнцьевіч узяў старога пад руку, і яны зноў пайшлі ў гасцініцу. Там рабочы чалавек заплаціў за пенсіянера і пажадаў яму добрай ночы.

Памятаюць у горадзе, як у першыя гады пасля вайны цяжка было знайсці будаўнічыя матэрыялы, асабліва на дах. І вось Леанід Лаўрэнцьевіч прыдумаў і пабудаваў ручны станок для рэзкі шчапы. Два чалавекі за два дні наразалі на ім шчапы на ўвесь дах. Другі зрабіў бы сваё вынаходства крыніцай узбагачэння, а Леанід Лаўрэнцьевіч раздаваў чарцяжы станка ўсім, хто прасіў. А некаторым сем'ям, якіх асіраціла вайна, сам дапамагаў наразаць.

Такі Леанід Лаўрэнцьевіч чалавек. А які ён рабочы?

— Дзіўнае пытанне, — адказвае сакратар партыйнага бюро цэментна-шыфернага камбіната Міхаіл Сяргеевіч Марозаў. — Ды на рахунку рацыяналізатара Леаніда Лаўрэнцьевіча Пастушэнкі дзесяткі сапраўдных працоўных подзвігаў. Узяць хоць бы вось нядаўні выпадак. Стала вярчальная печ. А кожная гадзіна прастою — гэта дзесяткі тон недададзенага клінкеру, а значыць і цэменту. Печ працуе кругласутачна, можаце ўявіць, колькі прадукцыі недадаў бы камбінат за шэсць дзён, якія патрэбны былі для ліквідацыі аварыі. Брыгада ж слесараў пад кіраўніцтвам Леаніда Лаўрэнцьевіча ўсё зрабіла за пяць гадзін. Подзвіг гэта, ці не?

Так, гэта подзвіг. Такім жа подзвігам з'яўляецца і пуск пласцінчатага транспарцёра ад вярчальных печаў у цэх памолу. Чатыры гадзіны спатрэбіліся Пастушэнку і яшчэ пяці яго сябрам на тое, каб замяніць сапсаваныя пласціны і ачысціць люк. І гэта ў гарачыні, не чакаючы, пакуль астынуць пласціны.

Такія работы Леаніду Лаўрэнцьевічу прыходзіцца рабіць кожны дзень: трымаць у руках гарачы метал, вапну, клінкер, цэмент. Таму і не сыходзяць з рук яго мазалі.

Я гляджу на моцныя, натруджаныя рукі Пастушэнкі, на твар з харошай усмешкай, гляджу ў блакітную празрыстасць яго вачэй, на бялюткую сівізну галавы. І хоць я не ведаю ўсяго таго, што перажыў Леанід Лаўрэнцьевіч, аднак магу з упэўненасцю сказаць: дрэнных спраў ён не рабіў ніколі. Нават адзіную ў сваім жыцці вымову ён атрымаў за добрую справу. Здаецца, кур'ёз, недарэчнасць, але гэта так.

У той час ён працаваў машыністам на дарожным катку ў дарожна-эксплуатацыйным упраўленні.

— Памятаю, — расказвае Леанід Лаўрэнцьевіч, — каля тыдня стаяў без работы ля вёскі Звянчатка. што ў Клімавіцкім раёне. Побач калгаснікі на коннай малатарні малацілі збожжа. Была ў іх і новая, больш магутная машына, ды не было рухавіка. Прыйшлі яны да мяне.

— Браточак, выручай, ты ж усё роўна стаіш. Бачыш, надвор'е псуецца...

Словам, угаварылі: за два дні закончылі малацьбу. А тут і з суседняй сельгасарцелі прыходзяць:

— Выручайце, калі ласка...

І зноў тры дні выручаў. Потым дзень на сваім паравым «Шварцкопфе» працаваў у адной гаспадарцы.

На дарозе без змен—рабіць не было чаго.

Але ў Крычаве даведаліся аб маёй дзейнасці, прыехаў начальнік і даў мне вымову:

— Гэта самае малое, — заўважыў пры гэтым, — калі б ты быў дрэнным рабочым, я пад суд аддаў бы цябе...

Толькі праз месяц, калі калгаснікі напісалі ў Маскву, мне замест вымовы падзяку аб'явілі.

Кожны, хто ведае Леаніда Лаўрэнцьевіча, ахвотна гаворыць пра яго добрыя словы.

Мне таксама захацелася сказаць такое слова пра гэтага харошага чалавека.

**П. ШАЎЦОЎ.**

У Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры Саюза ССР адбылася прэм'ера лірычнай оперы маладога кампазітара Р. Шчадрына «Не толькі любоў». Лібрэта напісана В. Катанянам па матывах апавяданняў С. Антонава, прысвечаных людзям сучаснай савецкай вёскі. Дырыжор — заслужаны артыст РСФСР Е. Святланаў. Рэжысёр-пастаноўшчык — заслужаны дзеяч мастацтва Казахскай ССР Г. Ансімаў. Мастак— заслужаны дзеяч мастацтва Узбекскай ССР А. Тышлер.

**На здымку:** сцэна з 2-й дзеі оперы. Дзяўчына з галінкай чаромхі—народная артыстка СССР М. М. Плісецкая.

**Фота А. БАТАНАВА.**
**Фотахроніка ТАСС.**

ШЧЫРЫЯ СЯБРЫ КНІГІ

# ПРАЦА—РАДАСЦЬ

Дзверы пакоя Насовіцкай сельскай бібліятэкі адчыніліся, і на парозе з'явіўся юнак з пачкам кніжак.

— Цябе, Саша, можна павіншаваць з прыбыткам, — весела загаварыў юнак, паказваючы на новыя, яшчэ не раскладзеныя на паліцах кнігі.

— Так, Фелікс, мы прывезлі больш трохсот кніг, — адказала дзяўчына.

— Значыць, я акурат паспеў,— узрадаваўся хлопец. — Атрымаю для сваіх чытачоў навінкі.

Загадчыца бібліятэкі Аляксандра Бічукова і Фелікс Драздоў ажыўлена гутараць пра свае справы, выбіраючы найбольш цікавую літаратуру для перасоўкі.

— А Марыя прыходзіла па кнігі? — цікавіцца юнак.

— Яшчэ не, — адказвае Бічукова.

Камсамольцы Фелікс Драздоў і Марыя Сакалоўская спаборнічаюць паміж сабой. Кожны стараецца, каб у яго было больш чытачоў. Гэтае спаборніцтва радуе бібліятэкарку. За Лагуны, Запрудоўку яна спакойна. Кнігі там чытаюць у кожнай рабочай сям'і. Гэта ўсё клопаты Сакалоўскай і Драздова.

Цяжка было пачынаць работу Аляксандры. Сельскага клуба ў Насовічах не было. Бібліятэка мясцілася ў невялікім пакойчыку сельсавета.

Былі семінары і кансультацыі. Але не яны дапамаглі Аляксандры Бічуковай заваяваць аўтарытэт сярод жыхароў вёскі Насовічы, а яе неспакойны характар, імкненне заўсёды шукаць новае, цікавае ў рабоце.

Бібліятэка не мела памяшкання, дзе б можна было праводзіць культурна-масавыя мерапрыемствы. І малады энтузіяст знайшла выйсце. Яна папрасіла дапамогі ў Насовіцкай сярэдняй школы, у сваіх былых настаўнікаў. І ёй не толькі далі неабходнае памяшканне, але і прапанавалі дапамогу.

Настаўніца В. Марчанка дапамагла правесці канферэнцыю чытачоў па кнізе А. Аўдзеенкі «Над Цісай». У ёй у асноўным прынялі ўдзел вучні. Абмеркаванне прайшло цікава. Першы поспех акрыліў бібліятэкарку.

Неўзабаве адбылася канферэнцыя чытачоў па кнізе Г. Бярозкі «Мацней за атам», у правядзенні якой таксама дзейсную дапамогу аказалі настаўнікі Т. Патапенка і В. Марчанка.

Камсамольска-маладзёжнай брыгадзе казлоўшчынскай малочнатаварнай фермы, якую ўзначальвае Ганна Шараева, першай у раёне прысвоена высокае званне камуністычнай. Быў праведзены тэматычны вечар: «У камуністычных брыгадах мы ў камунізм трымаем шлях». На гэты вечар запрасілі Ганну Шараеву і адну з лепшых свінарак саўгаса Ганну Кісялёву. Яны падзяліліся сваім вопытам. Апрача рабочых саўгаса, на вечары прысутнічалі члены вучнёўскай вытворчай брыгады Насовіцкай сярэдняй школы.

— Дамагацца поспеху нам дапамагла кніга — наш лепшы сябра і дарадчык. — Шануйце кнігу, чытайце яе і гэта прынясе вам толькі карысць, — заклікала Ганна Шараева.

Неяк Саша запрасіла ў бібліятэку свой актыў: камсамольцаў Марыю Альшэўскую, Віктара Скрыпея, Уладзіміра Беліча.

— Можа, чарговую канферэнцыю рыхтаваць будзем? — запытаў Беліч.

— Думаю з гэтым можна яшчэ пачакаць, — сказала яна. — Мяне вельмі хвалюе тое, што ў нашым саўгасе ёсць яшчэ лодыры і абібокі...

— Чым жа мы можам дапамагчы? — запытала Марыя Альшэўская.

І бібліятэкарка пачала расказваць пра сваю задуму — правесці вечар на тэму: у чым годнасць савецкага чалавека.

Праз некалькі дзён рабочыя затрымліваліся ля невялікай афішы і задаволена гаварылі:

— Правільна пастаўлена пытанне. Наша бібліятэкарка ведае, чым дапамагчы саўгасу.

Саша Бічукова ведае амаль усіх рабочых саўгаса, дзе і як яны працуюць. Ведае і тое, што не кожны з іх можа своечасова памяняць кнігу. Яна пагутарыла аб гэтым з актывістамі бібліятэкі. І вось цяпер кнiганошы наладзілі абмен кніг на даму ў чытачоў.

**Я. СТАЯНОЎСКІ.**
**Церахоўскі раён.**

# ЭКАНАМІЧНЫЯ ВЕДЫ— КОЖНАМУ РАБОЧАМУ

Прапаганда эканамічных ведаў сёння стала неад'емнай часткай работы бібліятэк. Добра гэтая справа наладжана ў бібліятэцы першага ў рэспубліцы прадпрыемства камуністычнай працы — Віцебскага дывановага камбіната. Загадвае бібліятэкай Вера Робертаўна Далінгер. У рабоце ёй дапамагаюць члены савета бібліятэкі і актывісты — тэхнік-лабарант А. Ладункін, інжынер-метадыст А. Галко, ткачыха Г. Драздова, мастак І. Шурупаў і іншыя.

Сумесна з бібліятэчным саветам быў складзены план работы. Падлічана, хто з рабочых карыстаецца якой бібліятэкай, хто мае сваю асабістую бібліятэчку. Асобна ўлічваліся тыя, што ніколі не звяртаюцца ў бібліятэку камбіната і іншыя бібліятэкі горада. Было выяўлена, што амаль 200 рабочых прадпрыемства зусім не чыталі кніг. Актывісты паставілі перад сабою задачу, каб усе гэтыя рабочыя сталі чытачамі прафсаюзнай бібліятэкі.

Асабліва многа ўвагі аддае бібліятэка прапагандзе эканамічных ведаў сярод рабочых. Амаль усе рабочыя камбіната вучацца. Напрыклад, гурткі па вывучэнню канкрэтнай эканомікі наведвае звыш 800 чалавек. Бібліятэка набыла неабходную для заняткаў літаратуру, наладзіла цесную сувязь з кіраўнікамі гурткоў. У дапамогу слухачам гэтых гурткоў бібліятэка склала рэкамендацыйныя спісы літаратуры: «У дапамогу эканамічнай адукацыі», «Што чытаць па ткацтву», «Што чытаць па слясарнай і такарнай справе». У чытальнай зале афармлены кніжныя выстаўкі, складзены картатэкі.

Пастаянным чытачом бібліятэкі з'яўляецца адна з лепшых ткачых камбіната Ганна Кізікава. Кнігі дапамаглі ёй дамагчыся добрых поспехаў у працы. Ужо ў 1960 годзе Г. Кізікава дасягнула прадукцыйнасці працы, запланаванай на канец сямігодкі. За выдатную працу яна ўдастоена Ганаровай граматы ЦК камсамола Беларусі.

Частым госцем бібліятэкі з'яўляецца і Марыя Шмеркіна, выдатная ткачыха, чый партрэт упрыгожвае заводскую Дошку гонару. У фармуляры М. Шмеркінай запісаны творы Ул. І. Леніна, літаратура па спецыяльнасці, кнігі рускіх класікаў і савецкіх пісьменнікаў.

Многа дапамагае бібліятэка і рацыяналізатарам свайго камбіната, якія часта звяртаюцца сюды за парадай. Інжынер па тэхніцы бяспекі Іван Васільевіч Лабацкі — пастаянны чытач заводскай бібліятэкі. Яго рацыяналізатарская прапанова аб механізацыі ачысткі галоўнага барабана шчыпальнай машыны дазволіла рэзка скараціць прастоі. Эканамічны эфект ад яе склаў амаль тысячу рублёў. Ёсць у яго і іншыя рацыяналізатарскія прапановы.

— Працуючы над тэхнічнымі ўдасканаленнямі,—гаворыць І. Лабацкі, — я прачытаў многа спецыяльнай літаратуры, якую мне рэкамендавала наша бібліятэка.

Многа кніг па тэхніцы запісана таксама ў фармулярах рацыяналізатараў камбіната В. Собалева, А. Краўчанкі, А. Тафеенкі і іншых.

Намаганні бібліятэкі далі добры плён у прапагандзе тэхнічнай літаратуры.

**К. САНЬКО,**
**метадыст Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя Ул. І. Леніна.**

# КАЛГАСНЫ БАЯНІСТ

Зімовы вечар. Дзьме рэзкі, халодны вецер. Мяцеліца заносіць вясковыя дарогі. У такое надвор'е рэдка хто выйдзе на вуліцу. Але маладосць марозу не баіцца. Перакінуўшы цераз плячо гармонік, юнак ідзе на маладзёжную вечарынку.

У хаце цёткі Матруны цесна, накурана. Вось гармонік зайграў, і некалькі пар весела закруціліся ў танцы. Але раптам гарманіст змоўк: «Не магу, маўляў, далей іграць». А цётка Матруна тут як тут, ведае што рабіць, дасць шляначку самагонкі «для бадзёрасці». І зноў іграе гармонік.

Так, у пракуранай хаце, сярод грубых жартаў і крыкаў п'янаватых хлопцаў, праходзілі яшчэ некалькі год назад вечарынкі ў вёсках Зарудзічы, Міхневічы, Ветхава, Яневічы, Алянцы (калгас «Чырвоны партызан»).

Крыўдна было камсамольцу Васілю Рамановічу, што ў калгасе не наладжан здаровы і культурны адпачынак моладзі і пажылых калгаснікаў.

Але вось Рамановіч стаў калгасным баяністам. Ён з душой узяўся за клубную работу. І хутка ажывілася ўся культурна-масавая работа: то ідзе рэпетыцыя хору, то танцавальнага гуртка, то салісты развучваюць новую песню. А затым — канцэрт.

За першы год самадзейныя артысты паставілі 18 канцэртаў. Наведалі яшчэ і суседнія вёскі: Солы, Данюшава і іншыя.

З цягам часу калгасныя артысты развучылі ўсе вядомыя песні. Яны сталі прасіць баяніста сыграць ім што-небудзь новае. Але Васіль нічым не мог парадаваць моладзь. Тады ён вырашыў вывучыць самастойна нотную грамату.

Сакратар камсамольскай арганізацыі калгаса Яўген Дудко гаворыць:

— Баяніст стаў душой калгаснікаў і на полі ў час сяўбы або жніва. А з якой радасцю сустракаюць яго даяркі, свінаркі, механізатары! Без баяніста і вяселля не згуляеш, сумным будзе і наваселле...

Задумалі камсамольцы наладзіць вечар провадаў сваіх таварышаў Станіслава Кляпацкага і Юрыя Спаскага ў рады Савецкай Арміі, і тут не абышліся без калгаснага баяніста. Былі і парады старэйшых, і пажаданні сяброў, і камсамольскія падарункі. На вечары спявалі, танцавалі, гулялі...

Паспяхова прайшлі ў калгасным клубе тэматычныя вечары і дыспуты на тэмы: «Ці гатовы ты жыць у камунізме?», «Што значыць працаваць і жыць па-камуністычнаму?», «Маральнае аблічча маладога будаўніка камунізма» і інш. Усе гэтыя мерапрыемствы былі праведзены з удзелам баяніста Васіля Рамановіча. Летась калгасныя артысты разам са сваім баяністам арганізавалі для працаўнікоў вёскі 28 канцэртаў і спектакляў, правялі 12 тэматычных вечароў, многа вечароў адпачынку моладзі. У клуб з ахвотаю ідуць калгаснікі.

Напярэдадні XXII з'езда КПСС пры клубе была створана агітацыйна-мастацкая брыгада, якая на раённым аглядзе заняла першае месца.

Цяпер калгасны баяніст Васіль Рамановіч павышае свае веды, вучыцца ў Смаргонскай музычнай школе па класу баяна.

**Ул. СУРМАЧ.**
**Смаргонскі раён.**

# Беларускі Народны універсітэт у Маскве

Лета 1918 г. Савецкая Расія сціснута кольцам контррэвалюцыі. Большая частка Беларусі акупіравана нямецкімі імперыялістамі. Па закліку старшыні Савецкага ўрада Ул. І. Леніна мільёны рабочых і сялян падняліся на абарону заваёў Вялікага Кастрычніка. Але і ў гэты цяжкі час Савецкі ўрад клапаціўся аб развіцці народнай адукацыі, культуры. Усё рабілася дзеля таго, каб узняць культурны ўзровень вызваленых ад царскага прыгнёту працоўных мас. Вялікую культурна-асветную работу сярод эвакуіраванага з Беларусі насельніцтва праводзіў Беларускі Нацыянальны Камісарыят. Ён быў створан па дэкрэту Ул. І. Леніна на правах аддзела пры Наркамнацы РСФСР.

У Цэнтральным дзяржаўным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі БССР знойдзена справа аб арганізацыі і дзейнасці Беларускага Народнага універсітэта ў 1918 г. З справы відаць, што ў памяшканні Маскоўскага педагагічнага інстытута імя П. Г. Шалапуціна (на Дзявочым полі), у ліпені — жніўні 1918 г. працаваў Беларускі універсітэт, арганізаваны Беларускім Нацыянальным Камісарыятам. У ім штодзённа, у вячэрні час чыталіся лекцыі па гісторыі, эканоміцы, геаграфіі Беларусі, па гісторыі сацыялізма і рэвалюцыйнага руху.

Яшчэ задоўга да адкрыцця універсітэта Белнацкам апублікаваў у цэнтральных і губеранскіх газетах аб'явы аб тым, што з 1 ліпеня 1918 г. адкрываецца Беларускі Народны універсітэт. Такія ж аб'явы былі разасланы ўсім эвакуіраваным з Беларусі навучальным установам, а таксама ў губеранскія і павятовыя настаўніцкія саюзы на тэрыторыі Беларусі. Мэтай гэтага універсітэта было павышэнне ведаў настаўніцтва ў сувязі з новымі задачамі

## З АРХІЎНЫХ ПАЛІЦ

Савецкай улады ў галіне народнай адукацыі. Праслухоўванне лекцый было бясплатным. Тым, хто не меў дзе жыць, давалі інтэрнат, каштоўную дапамогу і грошы на праезд. Сярод слухачоў універсітэта пераважную большасць складалі настаўнікі ўсіх тыпаў школ Беларусі. Лічба слухачоў, якія запісаліся ва універсітэт, дасягала 109 чалавек. Цікавы той факт, што сярод слухачоў была інтэлігенцыя з акупіраванай часткі Беларусі (Рагачоў, Маладзечна).

Да чытання лекцый ва універсітэце былі прыцягнуты вядомыя спецыялісты з вышэйшых навучальных устаноў Масквы. Сярод іх быў выдатны вучоны акадэмік Д. Н. Анучын, якога высока цаніў Ул. І. Ленін. Акадэмік Анучын нягледзячы на састарэлы ўзрост, прачытаў лекцыю па геаграфіі Беларусі.

14-гадзінную лекцыю па гісторыі народнай адукацыі ў Беларусі прачытаў выдатны рускі гісторык-славіст прафесар А. Н. Ясінскі, па эканоміцы сельскай гаспадаркі лекцыі чытаў вядомы статыстык прафесар А. Ф. Фартунатаў; па гісторыі Беларусі чытаў лекцыі прафесар В. І. Пічэта, па беларускай мове — дацэнт П. А. Растаргуеў. Цікавую лекцыю на тэму «Элемент тэатра ў народнай беларускай паэзіі» прачытаў вядомы рускі этнограф В. Н. Дабравольскі, а агляд беларускай літаратуры зрабіў паэт Цішка Гартны (Д. Ф. Жылуновіч). Акрамя таго, на Усерасійскіх настаўніцкіх курсах слухачы універсітэта праслухалі лекцыі А. В. Луначарскага, В. П. Пацёмкіна і іншых дзеячоў народнай адукацыі.

Беларускі Народны універсітэт у той час адыграў вялікую ролю. Ён даў настаўнікам веды па гісторыі, эканоміцы і народнай адукацыі, якія былі неабходны для карэннай перабудовы школы на новых, па-сапраўднаму народных асновах.

**М. КАМІНСКІ.**

# НОВЫЯ ЭКСПАНАТЫ

Экспазіцыя музея Вялікай Айчыннай вайны няспынна папаўняецца новымі цікавымі і разнастайнымі матэрыяламі аб гераічнай барацьбе беларускага народа супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У апошні час навуковыя супрацоўнікі музея адшукалі і даследавалі каштоўныя матэрыялы аб дзейнасці камсамольцаў-падпольшчыкаў Аршанскага раёна Віцебскай вобласці.

У жніўні 1941 года па ўказанню Аршанскага РК КП(б) Б. была створана падпольная камсамольская арганізацыя на торфапрадпрыемстве «Асінторф», у якую ўваходзіла 50 чалавек. Камсамольцы выводзілі са строю электраабсталяванне, торфамашыны, распаўсюджвалі газеты і лістоўкі, здабывалі зброю, боепрыпасы, прадукты для партызан, знішчалі стаўленікаў фашыстаў.

У кастрычніку 1943 г. па ўказанню камандавання 16 Смаленскай партызанскай брыгады ўсе камсамольцы-падпольшчыкі пайшлі ў партызаны, дзе гераічна змагаліся супраць акупантаў.

Аб гэтым расказвае новы стэнд экспазіцыі, размешчаны ў залах, прысвечаных партызанскаму руху на Беларусі. Тут можна ўбачыць партрэты кіраўнікоў партызанскіх атрадаў і актыўных удзельнікаў падпольнай камсамольскай арганізацыі торфапрадпрыемства «Асінторф».

Сярод новых экспанатаў музея— Граматы Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб прысваенні звання Героя Савецкага Саюза, ордэны і медалі, якімі былі ўзнагароджаны таварышы А. М. Рабцэвіч і Ул. З. Царук — актыўныя ўдзельнікі грамадзянскай вайны, сацыялістычнага будаўніцтва, адны з арганізатараў партызанскага руху і партыйнага падполля ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

# ЯШЧЭ ТРОХІ АБ МОВЕ

(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.).

**Узводзіць.** Звычайна гэтае слова адказвае на пытанне: каго куды ўзводзіць. «Узвёў яго на другі паверх», «узвёў на гару». Мы цяпер пачынаем ужываць яго замест «будаваць» у літаральным перакладзе з рускага «возводить»: «На вуліцы Міру **ўзвялі** мікрараён», «Мы **ўзводзім** цэлыя гарады». Няўжо горш сказаць **«забудавалі** мікрараён», **«будуем** гарады», **«вылажылі»** або **«змуравалі»** сцяну, як гэта гаворыць народ? Чытаюць жа нас якраз людзі, якія гавораць не «ўзводзім», а «будуем», дык навошта нам вучыць іх гаварыць не па-свойму, а кніжна?

**Дапамагаць.** Варта толькі ўспомніць, як людзі гавораць адзін аднаму з зычлівым пажаданнем: «Памагай бог!» і «Казаў бог, каб і ты памог»,—каб адразу зразумець, што і на гэтае простае слова «памагай» мы налажылі пячаць свае кніжнасці, перарабіўшы яго ў «дапамагай». Кажуць «памочнік», «памагаты», «падмога», «не помач, а немач», «успамога», і нідзе няма гэтай прыстаўкі «да». Іншая рэч, што можа быць і «дапамога» матэрыяльная — «воспомоществование» («Без дапамогі было б цяжка»), і «пры дапамозе»: падтрымка, падмацаванне («Пры дапамозе Савецкай Арміі»). Але ўсё добра ча сваім месцы і на сваім часе.

Захапіліся мы словам **«трапіць»,** падмяніўшы ім усе сінонімы: «собіла», «выпала» «пашчасліціла», «пашанцавала». Скрозь пішам **«з задавальненнем»,** калі можна сказаць **«з прыемнасцю», «з ахвотаю»** («з прыемнасцю прачытаў кніжку», «з ахвотаю папрацаваў»): «я быў задаволены», калі можна сказаць «я быў рады» ці «быў давольны». Прывыклі да **«сапраўды»,** забыўшыся, што існуюць яшчэ словы «папраўдзе», «упраўду», «напраўду», «дапраўды». Пішам: **«Па ўзросту** ён быў ужо не малады», «Ён быў чалавек не маладога **ўзросту»,** забыўшыся, што можна гаварыць і інача: **«Гадамі** ён быў ужо не малады», «Ён быў чалавек не маладога **веку».** Пішам «Тавары народнага **спажывання»,** калі трэба пісаць «народнага **карыстання»** або «народнага **ўжытку»,** бо «потребление» и «употребление» — гэта не тое самае, з бяздумнай лёгкасцю засмечваем мову канцылярызмамі, накшталт таго, што нейкая ўстанова **«вытварае** набор студэнтаў», а арцель **«вытварае** рамонт гадзіннікаў», калі трэба сказаць проста і даступна, што ўстанова **«набірае»** (або **«робіць набор»)** студэнтаў, а арцель **«прымае на рамонт»** (або **«рамантуе»)** гадзіннікі.

Усё гэта я гавару з адным добрым пажаданнем: каб мы больш уважліва ставіліся да таго, **як** пішам. Каб пазбягалі канцылярска-бюракратычнай штучнасці, не пісалі шэрай перакладной калькай, не вымудроўвалі, а гаварылі проста, даступна, па-народнаму свабодна. Каб больш шанавалі народчае слова. Я не хачу, каб мяне зразумелі, што я супрацьстаўляю літаратурную мову народнай і арыентую на спрошчанасць або на стыхійнасць мовы. Ні ў якім разе. Я гавару пра **культуру літаратурнай мовы,** пра тое, што ў ёй **павінна быць народная аснова,** як гэтаму вучылі нас нашы вялікія настаўнікі Пушкін, Талстой, Горкі, Тургенеў, Колас, Чорны, Шолахаў ды ці толькі яны. А мы часта выпрацоўваем у сабе пэўныя шаблоны, застываем на іх, і пасля гэтыя шаблоны ператвараем у норму.

Ніхто не сумняваецца, што, скажам, Максім Лужанін, Янка Брыль або Язэп Семяжон пішуць на літаратурнай мове, але колькі ў ёй народнага багацця, характва, колькі і добрай усмешкі, і гневу, як бруіцца ў ёй гэтая народная свежасць. А, скажам, у Уладзіміра Карпава надзычай вялікі запас народных слоў, куды як багатая лексіка, а натуральнай, свабоднай фразы няма, мова робленая, цяжкая. Ад гэтага трудна Карпаву нарысаваць і характар, і вобраз, і даць атмасферу—усё гэта выходзіць як бы ўмоўна, адчуць душы, хваляваня нельга. Бо фраза, зробленая не па законах мовы, не перадае праўды. А Мікола Лобан наадварот, вельмі траціць на тым, што не можа падняцца над стыхійнасцю мовы. Гэтым ён звужвае дыяпазон сваіх выяўленчых сродкаў. Яму (у рамане «На парозе будучыні», напрыклад) лёгка даецца вобраз селяніна (дый то вузкай тыпізацыі — прыгнечанага, забітага або кулака), а вобраз рабочага або інтэлігента не ўдаецца, бо тут трэба палітра другая. Гэта ўжо прыклад таго, як чядобра ў літаратурнай мове капіраваць народную, быць у яе ў палоне.

Найбольш шкодзяць нам сінтаксічныя парушэнні ад механічнага перанясення законаў адной мовы на другую (пры літаральных перакладах), як скажам, тыя ж «Перад **тварам смерці»** альбо «Механізмы **валодаюць** перавагамі». Лёгка ўпэўніцца, як гэта нядобра, калі ўявіць, што гэтакім жа чынам будзе зроблены пераклад з беларускай мовы на рускую. Скажам, калі «Ужо добра ўднела» ці «Бралася на вечар» перакласці літаральна «Уже хорошо виднело», «Бралось на вечер», дык гэта будзе проста смешна, і такога перакладу ніхто не прапусціў бы ў друк. А мы з такой непісьменнасцю мірымся.

Асабліва дрэнна, калі непісьменна гаворыцца са сцэны тэатраў або па радыё, бо гэта ўжо дыялог, і фальш тут чутна асабліва. Хто, напрыклад, паверыць у праўду вобраза, калі селянін скажа: «Я **не ў стане** сёння пайсці на работу»? Кожны ўбачыць, што гэта не селянін, а падстаўны чалавек, дрэнны артыст, а за ім, канечне, і дрэнны аўтар. А на жаль, са сцэны часта гавораць падобнай мовай. Барыс Уладамірскі, напрыклад, нават самага простага слова «хлушу́» не хоча сказаць правільна, гаворыць «хлу́шу». За ім паўтарае і радыё. Летась, 24 снежня, герой радыёпастаноўкі гаварыў: «Я пішу для Сашы, а ёй я ніколі не хлу́сіў». Якая ж тут культура мовы? Трэба толькі дзівіцца, як можа рэжысёр выпускаць на сцэну акцёра, які не ўмее зрабіць націску на слове.

Праўда мовы — гэта і праўда вобраза, і праўда душы, і праўда атмасферы. І нам, пісьменнікам і журналістам, нельга не мець гэтага на першай сваёй увазе. У мове нават маленькае парушэнне можа пачапаць нашу веру ў праўду. Мы, напрыклад, прымушаем селяніна (у нашых творах) гаварыць: «Якая табе справа» або «Не твая справа», а селянін свае мовы тут не пазнае, бо ён гаворыць «Што табе да таго», «Які табе клопат», «Не твой клопат» або нават «Не тваё дзела». І гэта натуральна, бо «справа» ў такім кантэксце ніколі народам не ўжывалася, а «дзела» бытуе вельмі шырока. Мне здаецца, што мы дарэмна баімся некаторых слоў, лічачы іх рускімі, як «свабодны», «давольны», «прамы», «пастаянны», «апаска». Якое б ні было іх паходжанне, але яны лёгка становяцца ў моўны рад, прыжываюцца сэмі, бо не супярэчаць законам мовы і яе сінтаксічным формам. А вось такія формы, як «свецячыяся» не хочуць прыжывацца, бо ідуць уразрэз прыродзе мовы, жывая гаворка імі карыстацца не можа.

Я падзяліўся толькі некаторымі думкамі і меркаваннямі. Можа, яны не зусім удалыя, часамі нават спрэчныя, але ж па такіх спрэчных пытаннях і варта часцей гаварыць. Гэта памагло б нам разабрацца ў нашых сумнях або ўпэўніцца ў ісціне. Гаворка такая магла б ісці не толькі аб мове, а наогул аб культуры творчасці. Шмат хто з нас, калі не кожны, любіць чытаць з алоўкам у руках, падкрэслівае тое, што падабаецца, або тое, з чым ён не згодзен. Абмен такімі заўвагамі памог бы выпрацоўваць эстэтычныя густы, фарміраваць мастацкае мысленне, прывучаў бы кожнага з нас да творчай дысцыпліны і патрабавальнасці да самога сябе. Нам, работнікам слова, пры індывідуальнай асаблівасці нашай работы, абмен вопытам асабліва патрэбен.

Куток такога абмену думкамі ў газеце можна было б назваць «Клуб добрых пажаданняў».

Галоўны рэдактар Н. Е. ПАШКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: З. І. АЗГУР, А. І. БУТАКОЎ, К. Л. ГУБАРЭВІЧ, В. Ул. ІВАШЫН, А. Н. МАРЦІНОВІЧ (адказны сакратар), П. Ф. ПРЫХОДЗЬКА, Р. К. САБАЛЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), М. Г. ТКАЧОЎ, І. З. ШАРАХОЎСКІ, І. Б. ШАЦІЛА, Р. Р. ШЫРМА.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск

АДРАС РЭДАКЦЫІ: г. Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—3-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 3-25-25, адказнага сакратара—3-25-25, аддзела літаратуры—3-22-04, аддзела мастацтва— 3-24-62, аддзела культуры—3-20-54, выдавецтва—3-19-52, бухгалтэрыі—3-11-03.

«Літаратура і мастацтва» выходзіць два разы на тыдзень: у аўторак і пятніцу.

АТ 00019

Друкарня выдавецтва «Звязда».